# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 12
1937




Клімент Ефрэмавіч
**ВАРАШЫЛАЎ**
дэпутат Вярхоўнага Совета СССР
ад Менскай выбарчай акругі



# МАЯ ЁЛКА

СЯРГЕЙ МІХАЛКОЎ

Я тапор вазьму ў руку,
Ёлку ў лесе я ссяку.

У сасульках ледзяных,
Ў моцных шышках смаляных,
Са смалою на ствале,
Са сняжынкай на смале.

Ёлку ў школу панясу.
Калі-ж стрэну я лісу,
Дык на ёлку пакажу
І вось так лісе скажу:

„Не чапай, ліса, мяне ты,
Лепш ідзі дарогай гэтай,
Не затрымлівай хаду,
Новы год страчаць я йду.

Мне ваўкі насустрач выдуць,
Скажуць: „Гэй, пастой, браток,
А чаму тырчыць пянёк?“

Дзяцел з дрэва прахрыпіць:
„А чаму пянёк тырчыць?“

Мяккай белаю пярынай
Снег кладзецца, усё ў снягу,
Ад усякае звярыны
Я на лыжах уцяку.

Я прынёс дадому ёлку—
Наглядзецца не магу!

Запаліў на ёй агні,
І куды ні загляні—
Ад падстаўкі да макушкі
На сучках вісяць сцяжкі,
Цацкі розныя, хлапушкі,
Залатыя пявункі.

Ну, сябры, заходзьце к нам,
Ёлку я наладзіў сам!



# ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ НА ЁЛЦЫ.

**ВЛАД. БОНЧ-БРУЕВІЧ**

I.

Увосень 1919 года Надзежда Канстантынаўна моцна захварэла. Владзімір Ільіч быў вельмі занепакоены яе хваробай. Парашылі, каб Надзежда Канстантынаўна пасялілася ў Сакольніках у адной Лясной школе, дзе на другім паверсе быў вольны невялікі пакой. Дактары казалі, што свежае паветра ёй дапаможа, а сумна ёй там не магло быць, таму што ў школе было шмат дзетвары. Надзежда Канстантынаўна вельмі любіць дзяцей.

Так яно і было. Яна пераехала ў гэтую Лясную школу. 22 снежня паклікаў мяне Владзімір Ільіч і кажа:

— Хочаце, Владзімір Дзімітрыевіч, прыняць удзел у дзіцячым свяце?

— Хачу,—кажу.

— Ну дык вось, даставайце, дзе хочаце, пернікаў, цукерак, хлеба, хлапушак з касцюмамі, масак, цацак і паедзем 24 снежня ўвечары Надзю наведаць і дзеткам свята наладзім, а на расходы вось вам грошы для складчыны.

Год быў цяжкі, галодны і халодны. Грамадзянская вайна кіпела ўсюды, і ўсё што мог, урад адсылаў на фронт. У гарадах прадуктаў было мала. Сяк-так, патрошку купілі мы ў складчыну ўсё, што маглі, для дзяцей і адаслалі загадзя ў школу, каб дзеці разам з настаўніцай падрыхтавалі ёлку.

## II.

Гадзін у 5 вечара прыехалі мы ў Лясную школу. Я прыехаў раней. Праз некаторы час прыехаў і Владзімір Ільіч з Марыяй Ільінічнай.

Владзімір Ільіч пайшоў да Надзежды Канстантынаўны і неўзабаве разам з ёю сышоў уніз да дзяцей. Дзеці радасна сустракалі яго і наперабой задавалі яму пытанні.

— У што мы будзем гуляць? — запытала Владзіміра Ільіча вельмі жвавая дзесяцігадовая дзяўчынка. Давайце хутчэй! А то сумна! Мы вас прачакаліся! Ну, у што-ж?

— Зараз харавод вакол ёлкі, — жыва адказаў Владзімір Ільіч.— Спяваць будзем, а потым у кошкі-мышкі...

— Згодны, згодны! — хлопаючы ў ладкі, радасна крычала дзяўчынка і ўсе другія хорам за ёю.

— Згодны? Дык што-ж, зачым-жа справа стала... Давай руку! Цягні вось тых!.. Ну, жвавей, далучайцеся!

Мігам утварыўся вялікі круг дзяцей, да яго далучыліся і дарослыя. Владзімір Ільіч пайшоў вакол ёлкі і ўсе за ім.

— Ну, запявай! Што-ж ты? — жыва звярнуўся Владзімір Ільіч да той дзяўчынкі, якая, расчырванеўшыся, залілася прыемным свежым галаском.

Усе падхапілі песню пра ёлку і закружыліся вакол ёлкі.

У гэты час раптам ёлка ўспыхнула featnaкаляровымі агнямі — гэта манцёр школы зрабіў такую прыемнасць дзецям. Ён дастаў маленькіх электрычных лямпачак, напярэдадні позна ўвечары, калі ўсе спалі, правёў памайстэрску шнур, уплёў у галінкі лямпачкі і вось цяпер пусціў ток і адразу ўсіх асвятліў. Радасці дзяцей не было канца. Усе яшчэ весялей заспявалі і закружыліся ў дружным хараводзе вакол ёлкі.

Владзімір Ільіч увесь захапіўся дзіцячым святам, весяліўся, смяяўся і дружна спяваў разам з дзецьмі. Яго закідвалі пытаннямі, і ён кожнаму паспяваў адказаць, жартаваў, гаварыў астроты, сам задаваў пытанні, загадкі. Прышлося толькі здзіўляцца, адкуль гэта ён усё ведае, усё памятае. Дружны смех і жарты пераліваліся па залу.

— Ну вось, а калі-ж у кошкі і мышкі? Што-ж гэта вы! Забыліся, — падзадорваў Владзімір Ільіч.

Зноў утварыўся круг, зноў ён там сярод дзяцей...

Глядзіце, з якім захапленнем гуляе ён, не прапускаючы ката, абараняючы мыш! Зорка глядзіць ён — яго не ашукаеш. Абарона яго моцная і надзейная.

І раптам так здарылася, што Владзімір Ільіч, які ў першы раз пазнаёміўся з гэтымі дзецьмі, зрабіўся іх лепшым другам і таварышам. Дзеці гаварылі з ім проста, на ты, жартавалі, перапынялі яго, і адчувалася, што ён зрабіўся для іх сваім чалавекам. Яны адбілі яго ад дарослых. Пацягнулі яго з сабою піць чай, частавацца, накладвалі яму варэння і ўсе як ёсць хацелі што-небудзь для яго зрабіць, а ён ім расколваў арэхі, наліваў чай з гарачых шклянак, і зорка сачыў за ўсімі, нібы ўсе яны былі яго сям'ёю. Ён-жа так моцна і шчыра любіў дзяцей! І дзеці гэта адчувалі і любілі яго гэтак-жа сама, і ўсе хацелі быць з ім. Владзімір Ільіч хутка ўведаў імёны дзяцей, і трэба было здзіўляцца, што ён не блытаў іх, а ўсіх запомніў.

З дзецьмі нічога нельга было зрабіць, яны завалявалі Владзіміра Ільіча зусім. Пацягнулі яго ў другія пакоі, паказвалі ў сваім школьным прыродазнаўчым музеі птушак, мышэй, вавёрку і ўсё, што ў іх толькі было. Паказвалі малюнкі, свой журнал, які яны амаль нікому не давалі чытаць. Владзімір Ільіч углыбіўся ў іх справы ды так, нібы ён усё жыццё толькі тое і рабіў, што займаўся са школьнікамі.

І мне хацелася-б, каб усе дзеці ведалі, што сэрца Владзіміра Ільіча заўсёды білася за радасць і шчасце дзяцей. Ён іх паважаў і любіў.





# КАЛЯ ЁЛАЧКІ ЗЯЛЁНАЙ

Каля ёлачкі зялёнай
Дзеці водзяць карагод.
Каля ёлачкі зялёнай
Колькі песень,
Колькі звону,—
Сустракаюць новы год!

Ярка зорачкі іскрацца
На грудзях у акцябрат.
Ярка зорачкі іскрацца
І вясёласцю свіцяцца
Вочы палкія рэбят.

Колькі цацак на галінках!
Проста люба паглядзець:
Вось дзе зайка
Выгнуў спінку,
Вось дзе птушка,
Вось мядзведзь...

Твары шчасцем запалалі.
Эх, як добра ў гэты час!
Твары шчасцем запалалі:
Дзякуй вам,
Любімы Сталін,
За ўсе клопаты аб нас!

Каля ёлачкі зялёнай
Дзеці водзяць карагод.
Каля ёлачкі зялёнай
Раздаюцца
Песні, гоман:
— Хай жыве
Наш новы год!

Дзяткор **Васіль Гаўрук.**

# НАША ЁЛКА

У школьным клубе ёлка
Прыбраная стаіць:
Красою пышнай вабіць,
Уся аж зіхаціць.

Высока на галінцы,
Што цацкамі блішчыць,
З яловай шышкай ў лапах
Вавёрачка сядзіць.

Спыніўся каля ёлкі
Калматы звер—мядзведзь,—
Нібы на сонцы хоча
Сваю спіну пагрэць.

Вунь заяц палахлівы
Пад ёлачку бяжыць,
А хітрая лісіца
На птушачку глядзіць.



Сляды звяроў усякіх
Відаць пад ёлкай скрозь.
А вунь—у бель адзеты—
Вясёлы дзед Мароз.

Прыгожыя тут птушкі
І рыбкі мільгацяць,
Ігрушы і цукеркі
І яблыкі вісяць.

З галінак парашуты
Спускаюцца на дол,
А вунь і самалёты
Ўзляцелі аж пад столь.

Развесістая ёлка
Красою зіхаціць,
А ў самым версе зорка
Чырвоная гарыць.

**Я. ЖУРБА.**



Таварыш І. В. СТАЛІН апускае канверт са сваімі выбарчымі бюлетэнямі ў урну 58-га выбарчага ўчастка Ленінскай выбарчай акругі г. Масквы. Злева—таварыш В. М. МОЛАТАЎ, справа—таварышы К. Е. ВАРАШЫЛАЎ і Н. Е. ЕЖОЎ.

# ПЕРШЫ ДЭПУТАТ

Дзень 12 снежня ў нашай краіне быў днём усенароднага свята. У гэты дзень дзесяткі мільёнаў людзей галасавалі за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета, выстаўленых комуністамі разам з беспартыйнымі.

Увесь Совецкі народ аднадушна выставіў першым сваім кандыдатам творца новай Канстытуцыі таварыша Сталіна. Вялікі гонар галасаваць за таварыша Сталіна выпаў на долю выбаршчыкаў Сталінскай акругі г. Масквы. З якой велізарнай любоўю і радасцю галасавалі выбаршчыкі за таварыша Сталіна!

Апавядаюць, што адзін стары рабочы з фабрыкі „Шэрсцьсукно“ прышоў на выбарчы ўчастак у 3½ гадзіны ночы. Ён хацеў першым падаць свой голас за таварыша Сталіна. Але на ўчастку ўжо сядзеў нейкі малады чалавек. Рабочы занепакоіўся, стаў прасіцца пераступіць яму чаргу. „Не—сказаў малады чалавек,—што хочаш для цябе зраблю, а гэтага не магу“. Прышлося рабочаму галасаваць другім.

У Вярхоўны Совет выбраны лепшыя людзі нашай краіны, якія змагаюцца за шчасце народа, за незалежнасць і свабоду нашай радзімы.



# ПАЛКАВОДЗЕЦ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

(З БІЯГРАФІІ К. Е. ВАРАШЫЛАВА)



*Таварыш Варашылаў у 1896 г.*

На Данецкай чыгунцы, на 130-ым кілометры, яшчэ і да гэтага часу стаіць старэнькая будка чыгуначнага вартаўніка. Нізкія сцены, маленькія вокны,—адным словам, будка, а не хата. У гэтай будцы нарадзіўся (у 1881 г.) і правёў свае дзіцячыя гады будучы слаўны палкаводзец Чырвонай Арміі, першы Маршал Совецкага Саюза Клімент Ефрэмавіч Варашылаў.



*Хатка, дзе нарадзіўся таварыш Варашылаў*

Цяжкімі былі дзіцячыя гады Клімента Ефрэмавіча. Бацька яго працаваў вартаўніком на чыгунцы, парабкам у памешчыка, чорнарабочым на рудніках. І ўсюды плацілі яму за-



*Таварыш Варашылаў у ссылцы.*

цяжкую працу мізэрныя капейкі. Сям'я не магла пражыць на гэтыя заработкі. Маці мыла людзям бялізну, насіла суседзям ваду. Але і яе заработкі былі, вядома, вельмі нязначнымі. Вось чаму маленькі Клім ужо з сямі год вымушан быў пайсці на работу, каб хоць крыху дапамагчы бацькам у іх цяжкім жыцці.

Спачатку Клімент Ефрэмавіч працаваў на шахтах. За доўгі дзень непасільнай для дзіцяці работы яму плацілі 10 кап. Потым разам з бацькам ён пасвіў у памешчыка жывёлу, працаваў батраком у кулака.

У 12 год Кліму ўдалося паступіць у школу. Але правучыўся ён мала. Беднасць бацькоў прымусіла яго кінуць вучобу з 3 класа і зноў ісці на работу.

На гэты раз Клімент Ефрэмавіч паступіў так званым „хлопчыкам“ на металургічны завод. Тут ён праз некаторы час стаў памочнікам слесара, потым слесарам і, нарэшце, машыністам крана.

На гэтым заводзе таварыш Варашылаў з групай перадавых рабочых арганізаваў першы рэвалюцыйны гурток. У 1899 годзе адбылася забастоўка рабочых-краншчыкаў. Клімент Ефрэмавіч быў арганізатарам забастоўкі. Пасля разгрому забастоўкі, яго выгналі з завода і занеслі ў „чорныя спісы“. Цэлыя тры гады таварыш Варашылаў не мог нідзе атрымаць работу. Так помсціла буржуазія рэвалюцыянерам, якія асмельваліся дамагацца правоў і палёгкі для рабочых.

Нарэшце, у 1903 годзе таварышу Варашылаву ўдалося паступіць на машынабудаўнічы завод у горадзе Луганску. Гэта быў адзін з самых вялікіх заводаў. У той-жа год Клімент Ефрэмавіч уступіў у партыю большэвікоў.

Таварыш Варашылаў праводзіў вялікую рэвалюцыйную работу сярод луганскіх рабочых. Ён рыхтаваў рабочых да змагання з праклятым царызмам. Арганізоўваў рабочыя дружыны, вучыў рабочых страляць, кідаць бомбы.

У першую рускую рэвалюцыю 1905—1907 гг. таварыш Варашылаў быў правадыром рабочага Луганска. Калі яго арыштавалі, дык турму акружылі тысячы рабочых, якія патрабавалі вызваліць любімага імі Клімента Ефрэмавіча. Царскія чыноўнікі



*Кіраўнікі 1-й Коннай Арміі—таварышы Варашылаў, Будзённы і Шчадэнка (здымак 1919 года).*

спужаліся такога выступлення рабочых. Клімент Ефрэмавіч быў вызвалены.

Луганскі рабочы Алексееў у сваіх успамінах расказвае пра адзін цікавы момант з таго часу:

„Я працаваў тады слёсарам на заводзе Гартмана. Памятаю, 30 красавіка нам перадалі сцяг, пашыты па заданню Кліма Варашылава. Позна ўночы мы—некалькі маладых большэвікоў—падкраліся да самай высокай заводскай трубы. Адзін з нас палез наверх па драбіне, якая праходзіла ўнутры трубы, а астатнія вартавалі ўнізе, каб не папасціся ў лапы паліцыі.

Назаўтра ўвесь горад убачыў горда рэяўшы над заводам чырвоны сцяг. Заводчыкі, купцы, чыноўнікі глядзелі на яго з нянавісцю, рабочыя—з найвялікшай любоўю і натхненнем.

У гэты дзень маёўка прайшла ў нас як ніколі раней. Ніхто не вышаў на работу. Па-святочнаму прыбраныя, з чырвонымі сцягамі, са спевам рэволюцыйных песень тысячы рабочых і іх жонак сабраліся на плошчу. Таварыш Варашылаў выступіў з гарачай прамовай.

Паліцэйскія баяліся нас чапаць, яны ведалі, што ў рабочых ёсць зброя. Гэтую зброю нам прывёз з Фінляндыі Клімент Ефрэмавіч“.



*Таварышы К. Е, Варашылаў і М. В. Фрунзе.*



*Таварышы Варашылаў і Будзённы на белапольскім фронце (здымак 1920 года).*

Царскі ўрад некалькі разоў арыштоўваў і высылаў Клімента Ефрэмавіча ў далёкія глухія губерні. Але Клімент Ефрэмавіч не пакідаў рэволюцыйнай работы і там. Усюды ён аставаўся большэвіком-рэволюцыянерам, верным вучнем і саратнікам Леніна і Сталіна. Усюды ён гуртаваў рабочых, вучыў іх, рыхтаваў да вялікай бітвы за волю.

Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі таварыш Варашылаў працуе ў Петраградзе старшынёй камітэта па ахове горада.

Вясной 1918 года Клімент Ефрэмавіч вярнуўся ў Луганск. Украіна ў гэты час была занята немцамі. Таварыш Варашылаў арганізаваў першы луганскі партызанскі атрад, які выступаў супроць немцаў. Праз месяц таварыш Варашылаў аб'яднаў шматлікія украінскія чырвонагвардзейскія атрады ў цэлую армію. З гэтай арміяй ён прарваў нямецкі фронт і вышаў да горада Царыцына. Царыцын у той час быў акружаны белымі. На абарону Царыцына партыя паслала сваіх лепшых сыноў—Сталіна і Варашылава. Белыя былі разгромлены. Таксама былі разгромлены

белыя генералы і на ўсіх іншых франтах, дзе выступаў супроць іх таварыш Варашылаў.

Таварыш Варашылаў камандваў вялікімі арміямі, але сам ён заўсёды знаходзіўся на перадавых пазіцыях. Сваёй баявой адвагай ёй падаваў прыклад байцам. Колькі разоў было ў нябяспецы жыццё Клімента Ефрэмавіча!

Таварыш Варашылаў часта сам ездзіў у разведку і здзіўляў усіх сваёю смеласцю і вытрыманасцю. Адзін раз Клімент Ефрэмавіч прыехаў на бранявым аўтамабілі на хутар. На хутары, здавалася, было ціха. Вуліца пустая, людзей не відаць. Шофер пад'ехаў да сярэдзіны хутара і спыніў машыну. Камандзір машыны вылез, каб агледзець мясцовасць. У гэты час з усіх бакоў пачалася страляніна. Забіты камандзір упаў. Таварыш Варашылаў ледзь паспеў закрыць дзверцы. Вуліца была вузкая, павярнуцца на бранявіку нельга было. А на хутары аказалася поўна белых казакаў. Паўтары гадзіны адстрэльваўся таварыш Варашылаў з кулямёта ад насядаўшых з усіх бакоў казакаў. Нарэшце шофер сяктак павярнуў машыну і выехаў з хутара.

Адважны і смелы ў баі, вясёлы і просты ў час адпачынку, таварыш Варашылаў быў бязлітасны да шкоднікаў, здраднікаў, баязліўцаў і порушальнікаў дысцыпліны.

Скончылася грамадзянская вайна. Таварыш Варашылаў працуе ў арміі на адказных пастах. З 1925 года пасля смерці М. В. Фрунзе таварыш Варашылаў працуе Народным Камісарам па Ваенных і Морскіх Справах, а з 1934 г. Народным Камісарам Абароны СССР.

Таварыш Варашылаў нястомна працуе над умацаваннем абароны Совецкага Саюза. Чырвоная Армія стала самай магутнай арміяй у свеце. Народы нашай радзімы могуць спакойна жыць і працаваць: Чырвоная Армія гатова даць адпор любому ворагу, калі ён адважыцца напасці на нас.

Вось чаму Чырвоная Армія і яе слаўны палкаводзец Клімент Ефрэмавіч акружаны вялікай увагай і любоўю ўсяго нашага народа.

Вось чаму беларускі народ з вялікай радасцю сустрэў згоду таварыша Варашылава быць дэпутатам ад нашай сталіцы ў Вярхоўным Совеце СССР.

Таварыш Варашылаў вышаў з народных мас, ён любіць народ, усё сваё жыццё аддаў служэнню народу. І народ з радасцю давярае свайму блізкаму, роднаму Кліму.

34 гады таварыш Варашылаў працуе ў партыі і ўсе гэтыя гады ён ішоў разам з вялікімі нашымі правадырамі Леніным і Сталіным, бязлітасна выступаў супроць усіх ворагаў партыі і совецкага народа.

За выдатныя баявыя заслугі перад радзімай таварыш Варашылаў узнагароджан васьмю ордэнамі, апрача гэтага яму прысвоена званне Маршала Совецкага Саюза.



*Гістарычнае паседжанне ў ЦК ВКП(б). Герой-лётчык т. Чкалаў аб'ясняе праект пералёту цераз Паўночны полюс у Амерыку. Злева направа—т. т. Варашылаў, Сталін, Кагановіч, Молатаў, Ежоў, Белякоў, Чкалаў і Байдукоў.*

# РАЗВЕДКА

ПА ЎСПАМІНАХ Е. ШЧАДЭНКА

— Ён наш!

— Ён любіць нас!

— Ён за нас!

У гэтых скупых словах адчуваецца глыбокая любоў, павага і захапленне народа сваім Клімам.

Доўгія гады ўпартай барацьбы ў перадавых атрадах Ленінскай гвардыі выкавалі жалезную волю і вялікую храбрасць пролетарскага маршала.

Гледзячы адкрыта смерці ў вочы, ён вадзіў палкі, дывізіі і цэлыя арміі ў бой, і заўсёды перамагаў.

Вось што здарылася аднойчы...

Здавалася—няма выхада!

Зморaныя, галодныя часці 10-й арміі пад напорам добра ўзброенага ворага адыходзілі к Царыцыну. Страшна было і падумаць, каб здаць ворагам Царыцын.

Партыя паслала на абарону Царыцына лепшых сваіх людзей. Клім Варашылаў—у першых радах бясстрашных правадыроў абароны.

— Наперад, таварышы, за мною!

І комуністычная дывізія данбаскіх рабочых, збіраючы астатнія сілы, рынулася наперад.

Пяць кілометраў пад ураганным агнём прайшлі мы з Кліментам Ефрэмавічам па чырвонаармейскай цэпі.

— А цяпер едзем на другі ўчастак!—скамандаваў ён.

Паехалі. Там яшчэ нядаўна нашы часці займалі акопы. Усё ціха. Усюды пуста—ніводнага чалавека. Толькі вецер шуршыць у прымятай саломе пакінутых акопаў. Здалёк чуваць дзікія крыкі „ура“, гарматныя стрэлы і трэск кулямётаў.

Управа, каля ціхага возера, відаць батарэя. Мільгаюць дробныя фігуркі людзей і коні, якія п‘юць ваду.

— Гэта яны, твае марозаўцы,—адрываючыся ад бінокля, кажа камандарм.

— А можа не яны,—спрабую даводзіць я.

— Едзем!—загадвае Клім.—Трэба зрушыць іх з месца.

Пад‘язджаем блізка. За шагоў дзвесце ад батарэі сустракаем сястру з крыжам на грудзях.

Значыць, белыя!

Шофер рэзка тармозіць машыну.

Камандарм устае на аўтамабілі і махае рукою ў бок разявіўшых раты салдат батарэі. Чалавек сорак кулямётнай і батарэйнай прыслугі махаюць у адказ вялізнымі казацкімі шапкамі.

Пасля гэтага нам зусім стала ясна, што мы трапілі да белых.

Але як цяпер ад іх уцячы? Камандарм, выпрастаўшыся на ўвесь рост, крычыць да іх:

— Ну, што-ж вы там паразяўлялі раты? Ідзіце сюды хто-небудзь!

Вахмістр батарэі вярхом на здаравенным цёмнагнедым кані галопам падскакаў да машыны. Крута асадзіўшы каня, ён узяў быў пад казырок. Але... убачыў чырвоныя звёзды ў нас на шапках... і павольна пачаў апускаць руку да рэвальвера.

Камандарм хутка падняў вінтоўку і стрэліў у яго. Вахмістр зваліўся. Шофер даў адразу поўны ход машыне. На батарэі паднялася паніка. Але неўзабаве чалавек дзесяць верхавых кінуліся за намі ў пагоню.

Мы стралялі іх аднаго за другім. А яны як шалёныя імчаліся за намі і забыліся, мусіць, што закрываюць нас ад кулямётнага агню батарэі. А калі яны здагадаліся звярнуць у бок, было позна ўжо. Мы ад‘ехалі за лінію агню і весела смяяліся, радасна глядзелі адзін на аднаго.

Адзін з нас заўважыў быў Кліменту Ефрэмавічу:

— Тваё жыццё вельмі дорага! Нельга так рызыкаваць ім.

— Дзівак ты!—загарэўшыся румянцам, адказаў камандарм.—Вайна без рызыкі не бывае. Вось аб‘ехалі кілометраў пяцьдзесят, і цяпер нам ясна, што трэба рабіць.

І, памаўчаўшы, упэўнена дадаў:

— Цяпер мы іх пачнем лупіць!

І сапраўды, праз некалькі дзён вораг быў адкінуты далёка за Дон.




*Таварыш Варашылаў на парадзе Чырвонай Арміі ў Маскве чытае байцам тэкст чырвонаармейскай прысягі.*

Фатаграфія „Союзфото".

# ПАРАД

ЯКУБ КОЛАС.

Маршалу Варашылаву.

**Рад за радам, чоткім крокам,**
**Вал праходзіць малайцоў.**
**Маршал сочыць зоркім вокам,**
**Аглядае моц байцоў.**

**За пяхотай эскадроны**
**Гнуць, калышуць гулкі дол;**
**Перад імі сам Будзённы**
**Праімчаўся, як арол.**

**Чуць хіснуўся вус наркома,**
**А з вачэй плыве цяпло—**
**Штось з былога—ім вядома—**
**Пэўна ў памяці ўсплыло.**

**Грознай лавай мкнуць тачанкі,**
**Сотні танкаў, цьма гармат...**
**Ці гадаў, прастор Луганкі,**
**Ты пра гэтакі парад?**

**Загуло паветра звонка,**
**Адгукнулася зямля...**
**Ну, хто пойдзе ўперагонкі**
**З вамі, орляя сям'я?**

**Маршал ветла аглядае,**
**Ловіць звон тых галасоў,**
**І прамень, як дзень, гуляе**
**Ў пасме сівых валасоў.**

**Хіба-ж пэўным быць не можна**
**З грознай сілаю такой?**
**Маршал бачыць час трывожны,**
**І ў душы яго спакой.**

# ДЗЕД І ЎНУК

Я. КОЛАС.

Дзед Міхалка і ўнук Грыша—
Прыклад дружбы ў хаце.
Дружба ім законы піша,
Дружба грэе іх, калыша,
Ну, як тая маці.

Яны ўсюды неразлучны:
На дварэ, на печы.
Яны знойдуць момант зручны
Для гамонкі, песні гучнай
І для кожнай рэчы.

Дружба крэпкая навекі
Лучыць дзеда, ўнука,
Ды сягоння на час нейкі
Двум дружакам небяспека:
Сочыць іх разлука.

Дзед прыбраўся, як у свята
І падмаладзіўся.
Боты вычысціў багата—
Гэтак ззяюць зухавата,
Што ўнук аж здзівіўся.

На дварэ-ж Мышак і Гнеды
Запрэжаны цугам.
— Ну, брат Грышка, дык я еду.—
Пазірае ўнук на дзеда,
На старога друга.

І гаворыць дзеду Грышка:
— Эх, дзядок, як шкода!
Табе восемдзесят з лішкам,
А мне толькі дзевяць блізка,
Дык пазыч мне годаў.

Я таксама з усёй сілы
Крыкнуў-бы раз-по-раз:
Родны Сталін, любы, мілы,
І ты, маршал Варашылаў—
Наце вам мой голас!

11/XI—1937 г.

# ПРЫГОДЫ ВЯЛІКАГА ЧОРНАБУРАГА*)

### (АПАВЯДАННЕ ПРА СІБІРСКАГА МЯДЗВЕДЗЯ)

## IV. ПАБУДОВА БЯРЛОГІ

Паляцелі на поўдзень гусі. У паветры закружылася залатое лісцё. Па берагах рэк зачырванеліся яблыні, у кедраўніках паспелі арэхі, а балоты на прагалінах пакрыліся салодкімі, попельна-сінімі ягадамі дурніц. Загінулі камары, мошкі і авадні, якія трывожылі звяроў.

Сонца заходзіла за лес і яго косыя праменні зіхацелі між дрэў. З глыбокага яру вышаў Вялікі Чорнабуры. Яго пышнае футра было памятае і запэцканае глінаю, нібы мядзведзь доўга капаўся пад зямлёю. А яно так і было: Вялікі Чорнабуры наладжваў для сябе зімовую кватэру. У яры ён знайшоў мясцінку, нібы самою прыродаю прызначаную для бярлогі—размыты веснавою вадою куточак, да якога нельга было падыйсці інакш, як толькі праціснуўшыся пад гарою буралому. Мядзведзь адразу ўзяўся за работу. Ён капаў без адпачынку шмат гадзін і перагрыз сотні карэнняў, якія пранізвалі зямлю.

На другі дзень, пад вечар, бярлога была гатова. Вялікі Чорнабуры вышаў з яру падсілкавацца. Каля яго як ашалелы прабег зайчык. Але мядзведзь не звярнуў на яго ўвагі: ён страціў апетыт да мяса і штогод, за месяц—паўтара да надыходу зімы, карміўся раслінамі, ад якіх пад скураю адкладваўся тоўсты слой тлушчу.

Каля крынічкі Вялікі Чорнабуры наткнуўся на секача**). Бурае шчацінне на кабану блішчала ад кедравай смалы і да спіны яго прысталі кавалкі кары. Сякач здабываў на балоце карэнні нейкіх раслін; яго магутнае рыла капала як рыдлёўка і плуг адначасова. Як толькі кабан убачыў мядзведзя, то шчацінне на яго спіне раптам пастала дыбам і ён завурчаў коратка і перасцерагальна: рро! рро!

Вялікі Чорнабуры спыніўся ў нерашучасці. Яму не хацелася адыходзіць з балотца, каля якога раслі ажынцы; разам з тым ён не хацеў сутычкі са злым секачом. Ён патаптаўся на месцы, паматаў галавою, але потым рушыў далей.

## V. СУСТРЭЧА З ЧУНДЫ

Аднойчы да рэчкі прышоў паляўнічы—стары нанаец*) Чунды. Ён быў невысокага росту, але прысадзісты, з рэдкаю сіваю барадою і вялікімі скуламі, пад якімі хаваліся вузенькія зоркія вочы. За плячамі ў

*) Нанайцы жывуць у Далёкаўсходнім краі, у прыватнасці на берагах р. Усуры.



*) Канец, пачатак у № 11.
**) Сякач—дзікі кабан.

яго маталася вінтоўка, а ў руцэ ён трымаў сошкі*), на якія апіраўся пры хадзе.

Каля вады ён нагнуўся і стаў разглядаць адбіткі на пяску мядзведжых лап.

— Вялікі Чорнабуры!— голасна сказаў ён.—Так, так, толькі ён мог пакінуць такія велізарныя сляды. Ах ты калматы гультай! Памятаеш, як я цябе летась высочваў? Ты, як я бачу, хітры звер і залёг у бярлогу да снегу. Малайчына, што там і казаць! Але цяпер я знайду цябе, вось убачыш. Старога Чунды не так-то лёгкі ашукаць засаб два разы.



Стары пайшоў па слядах. Яны прывялі да маліннiку, ад якога, пасля наведвання мядзведзя, засталося толькі паламанае галлё.

— Ах ты ласун!—прашаптаў Чунды.— Нашто ты так паламаў кусты? На той год малiннiк не дасць і палавіны ягад. А што ты рабіў каля буралому? Ага, хацеў узлезці па калодзе на край абрыву... ха-ха-ха!—і абарваўся у ваду! Проста жабе на галаву... Ай-ай, які нязграбны! Хіба-ж можна хапацца кіпцюрамі за гнілую кару? Ты-ж не белка, не ўсякая кара вытрымае цябе.

Смяючыся сам сабе, Чунды углыбіўся ў лес. Неўзабаве ён падышоў да ліпы, пад якой напярэдадні настаражыў лучок. Чунды разгарнуў траву і ўбачыў канец стралы, які тырчаў з норкі. Вяроўка, якая прымацоўвала стралу да лучка, была напята, як струна. Стары стаў на калені і нагнуўся над норкаю. Разгледзеўшы штосьці, ён засадзіў у норку руку і з перасцярогаю выцягнуў за хіб жывога собаля. Звярок злосна сыкаў і трапятаўся ў руцэ.

У той час, калі Чунды быў заняты собалем, з далёкіх кустоў вышаў Вялікі Чорнабуры. Ён здрыгануўся, убачыўшы чалавека. Зноў у лесе паказаўся двуногі звер, такі слабы на выгляд і такі магутны! Зноў трэба хавацца ў нетрах, прыслухоўваючыся да кожнага шораху...

Не трацячы ні хвіліны, Вялікі Чорнабуры павярнуўся ў кусты.

У адну халодную ноч узнялася бура. Раніцаю на дрэвах не засталося ніводнага лісціка і лясы здаваліся цёмнымі і змрочнымі.

Чунды ўзлез на схіл гары і каля ручая неспадзявана сустрэўся з Вялікім Чорнабурым. Мядзведзь ішоў, нізка апусціўшы лабатую галаву. Здавалася, ён прынюхваўся да апаўшага лісця, або адшукваў чыесьці сляды. Раптам... трэск сушняку—і страшны пах, ад якога ў жылах пахаладнела кроў...

Ух! Ух!

Вялікі Чорнабуры з шумам выдыхнуў паветра. Яго вочы, накіраваныя на чалавека, успыхнулі злым агнём.

Чунды спешна рассунуў сошкі і палажыў на іх стрэльбу. У лоб або ў вока? У пятнаццаці кроках цяжка прамахнуцца...

Палец націснуў на спуск. У гэту секунду ножка сошак саслізнулася з каменя. Міма і... Вялікі Чорнабуры зароў і кінуўся на ворага. Стары стрэліў другі раз і хацеў тузануць затвор, але не змог. вялізарная мядзведжая галава апынулася каля яго грудзей. Вінтоўка адляцела далёка ўбок, а сам Чунды кулём пакаціўся па каменнях. Аглушальны ўдар у галаву... Пякучы боль у плячы і цяжар, нібы ўціснуўшы ўсё цела ў зямлю... У вушах зазвінела і агнявыя колы паплылі перад вачыма. Але Чунды не страціў прытомнасці. Якоесьці пачуццё, выпрацаванае вопытам, сказала старому, што мядзведзь сарваў гнеў і не стане рваць распластанае цела Трэба толькі ляжаць нерухома, стараючыся не падаваць адзнак жыцця.

Чунды не памыліўся: Вялікі Чорнабуры падняўся і, пастаяўшы крыху над ворагам, пайшоў у лес.

Стары ледзь устаў на ногі. У яго кружылася галава. Ён правёў па ёй рукою і абмацаў на цемі вялізарны гуз, які ўсхапіўся ад удара аб камень. Левая рука была ў крыві, балела плячо. Чунды падняў стрэльбу і сошкі, і спусціўся да ручая. Тут

---

*) Падстаўка для стральбы з вінтоўкі.



ён раздзеўся па пояс. Дзве доўгія крывавыя раны цягнуліся ад пляча да локця.

Стары прамыў раны і, як мог, перавязаў іх кавалкам анучы.

„Глупства,—драпіна“, спакойна падумаў ён, нацягваючы на сябе куртку.

## VI. ЗІМА.

Пагода зусім сапсавалася. Халодны паўночна-усходні вецер гнаў чароды хмар і даль з кожным разам зацягвалася паласою дажджу. Лясы нібы вымерлі. Нават шустрыя белкі лічылі за лепшае сядзець у дуплах, напоўненых смачнымі арэхамі.

У адну непагодлівую ноч вецер павярнуўся з поўначы. Берагі рэк пакрыліся лёдам, а па лісцях зашуршэла белая крупка.

Вялікі Чорнабуры адразу накіраваўся ў бярлогу. Залегчы да снегу—азначала не пакінуць здрадлівых слядоў, інакшай кажучы—спакойна перазімаваць. Для перасцярогі мядзведзь удоўж і ўпоперак перасек лес, але не заўважыў блізкай прысутнасці людзей.

Бярлога была ў парадку. Вялікі Чорнабуры нагроб ахапак лісця і моху і шчыльна заткнуў з сярэдзіны ўваход. Цяпер засталося легчы і, скрозь дрымоту, пяць доўгіх месяцаў прыслухоўвацца да завыванняў буранаў.

У бярлозе было цёпла і ўтульна. Вялікі Чорнабуры выцягнуў пярэднія лапы і, палажыўшы на іх галаву, заплюшчыў вочы.

Удзень над бярлогай прайшоў Чунды. Ён быў цяжка нагружаны здабычай, але бадзёра ступаў па пушыстым снягу.

„Вялікі Чорнабуры мусіць ужо залёг“, падумаў ён. „Ой хітры звер! зноў увільнуў... ды яшчэ ледзь не задраў мяне“.

Снег валіў усё мацней. Белай пялёнкаю ён пакрываў горы і даліны. Калі праз пяць дзён узняўся буран, над мядзведжым бярлогам вырас сумёт, амаль зраўняўшы краі яру.

А. Пятроў.

# З І М О Ю

А. КРОТ

Эх, весела ўзімку
У снежкі гуляць,
У лесе з сябрамі
Зайцоў узганяць,

Ці з горкі на санках
Спусціцца гурбой
І, ўпаўшы, схавацца
У снег з галавой!

З нагі разагрэтай
Валёнак зляцеў,
І рукі памерзлі,
І нос пасінеў.

А іней празрысты
Укрыў варатнік...
Чаго не натворыць
Мароз-жартаўнік!

На вокнах узоры,
На рэчках масты,
Занесена поле,
Канавы, кусты.

Пад сонцам, як золата,
Гурбы блішчаць,
А ночкаю ясныя
Зоркі дрыжаць.

# У ХАЦІНЦЫ ПЭДРО

**(У іспанскай вёсцы, захопленай фашыстамі).**

Фашысты падыходзілі к Фуэнтэ дель Ховенес. Іх снарады ўжо рваліся на вуліцах вёскі. З'явіліся варожыя самалёты. Як каршуны, кружыліся яны над Фуэнтэ дель Ховенес. Амаль усе дамы былі разбураны імі. Не было сям'і, дзе-б не аплаквалі забітых. У тую-ж ноч, усе, хто астаўся ў жывых, пакінулі вёску.

У вёсцы засталіся толькі сямідзесяцігадовы Пэдро і ўнучка яго—Марыкіта. Калісьці Пэдро адрэзала цягнікам абедзве нагі — далёка бязногаму не зайсці! Дванаццацігадовая Марыкіта засталася з дзедам. Маці яе забіта асколкам бомбы. Бацька—на фронце. Няма з кім ёй ісці, апроч таго і дзеда няма на каго пакінуць.

На досвітку ў вёску ўварваліся фашысты. Выгляд бязлюднай вёскі прывёў іх у лютасць. Мяцежнікі сярод разбураных дамоў шукалі рэспубліканцаў. Нарэшце яны дабраліся да хацінкі Пэдро.

Стары, як заўсёды, сядзеў у крэсле. Марыкіта спалохана тулілася да дзеда.

— Уставай, стары чорт!—зараўлі фашысты. Стары моўчкі паказаў на свае абкручаныя анучамі абрубкі ног.

— Сказана, уставай, без разважанняў!— стары быў прыкладам вінтоўкі скінуты на падлогу.—Чаму не пайшоў з усімі? Шпіён?!.. Думаеш нас падмануць! Ты застаўся, каб збіраць весткі і пасылаць іх праз дзяўчынку рэспубліканцам!—накінуліся азвярэлыя фашысты на Пэдро.

Расправа была кароткая. Старога, на вачах у Марыкіты, павесілі на дзвярах яго-ж хаты. Дзяўчынку, зняпрытомнеўшую ад жаху і гора, збітую да поўсмерці кінулі ў хлеў. Там яна доўга ляжала без прытомнасці. Але вось яна ачнулася: „Уцякаць! Што-б там ні было ўцякаць!“

Марыкіта ведала: у адным кутку хлява ёсць крыху ссунутая з месца дошка. Яна прыслухалася. За сцяной было ціха. Дзяўчынка сабрала ўсю сваю сілу і налягла на дошку. Дошка падалася. Яна яшчэ раз прыслухалася і ціха выскачыла на вуліцу.

Пяць доўгіх дзён брадзіла галодная, пораздзетая дзяўчынка па незнаёмых дарогах. Пры кожным шораху яна хавалася па кустах і канавах.

Нарэшце яе падабралі рэспубліканскія разведчыкі. Яны прыласкалі яе, супакоілі і пераправілі ў Хіхон. Адтуль яна разам з другімі рэбятамі паехала на параходзе ў Францыю.



# Як зайцы перамаглі воўка

Казка СУРМЯНКОВА АЛЕСЯ

Пасярод вялікага возера быў востраў. Жылі на ім зайцы. Жылі яны і не гаравалі: ежы ўсякай хапала, а пра злых звяроў і ўспаміну не было.

Даведаўся пра гэта воўк. Задумаў ён зайцоў пералавіць. „Дабяруся, думае, да вострава і пералаўлю іх усіх. Нікуды яны ад мяне не схаваюцца“.

Так і зрабіў. Дабраўся да вострава і абсталяваў там сабе нару.

Не стала зайцам жыцця. Кожны дзень то аднаго, то двух, а то і трох зайцоў зловіць воўк і з'есць.

Сабраліся зайцы ўночы на палянку і бядуюць—як быць? Загубіць воўк усіх да аднаго. Доўга зайцы думалі ды гадалі, а прыдумаць нічога не маглі.

Нарэшце ўзяў слова шэранькі зайчык. На выгляд мудранькі такі. І прыдумаў ён хітрую справу. Яго нават малайчынай назвалі.

У тую-ж ноч, пад камандай хітрага зайчыка, выкапалі зайцы на палянцы доўгую нару. Зрабілі яе скразной: у адзін канец увойдзеш, у другі выскачыш.

Назаўтра, досвіткам, пабег хітры зайчык проста да воўчай нары. А воўк толькі што прачнуўся і праціраў вочы. За ноч ён вельмі прагаладаўся. Убачыў воўк зайчыка і ўсміхнуўся.

— Бач ты,—кажа,—быстры які! Сам да мяне на снеданне просіцца.

Выскачыў воўк з нары і пагнаўся за зайчыкам. А той толькі гэтага і чакаў. З усіх ног пусціўся ён наўцёк.

Прымчаўся зайчык на палянку і шмыгануў у нару. Падбег сюды воўк, таксама сунуў морду ў нару. Зайчык сядзіць недалёка, а дастаць яго воўк не можа—нара вузкая. Ад злосці воўк нават зубамі заляскаў. Потым адышоўся воўк ад нары, прысеў. Азірнуўся Бачыць: вылез зайчык з нары і быццам некуды бегчы збіраецца. Воўк зноў да нары, а зайчык назад у нару.

Разоў дзесяць спрабаваў воўк злавіць зайчыка, але нічога не вышла. Раззлаваўся ён, вые, зубамі ляскае.

— А ўсё-такі я цябе дастану!

Разагнаўся тады воўк з усяе сілы і ўскочыў у нару. Амаль увесь ён туды залез, толькі хвост застаўся. А зайчыка ўсё-ж не злавіў: той выскачыў з другога канца. Выскачыў зайчык і закрычаў на ўвесь востраў:

— Зайцы, сюды!

На крык зайчыка збегліся ўсе зайцы. Бачаць яны: тырчыць воўк у нары і не можа ні ўперад пралезці, ні назад вылезці.

— Ага, папаўся ты нам! — зарадваліся зайцы.

Узялі яны і засыпалі воўка зямлёй. А зверху насыпу, каб мацней было, вялізны камень палажылі.

Так зайцы перамаглі воўка.



*Сям'я музыкаў. Дзеці музыканта Салдачэнка Ігната Грыгоравіча (Менск) усе займаюцца музыкай. На фатаграфіі, злева направа—Аня, 12 год, іграе на скрыпцы, вучыцца ў музшколе на 4 курсе; Піня, 6 год, іграе на віяланчэлі і Пеця, 6 год—на скрыпцы.*

Фото Б. Равіча.

# ДРУЖНЫ АТРАД

Дружна жывуць паміж сабой піонеры пятага атрада. Адзін другому дапамагаюць у вучобе і весела адпачываюць. Выдатніца Сара Славіна з'яўляецца старшынёй атрада. Яна акуратна сочыць за работай звенняў.

Піонеры ўважліва вывучалі палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет. Яны парашылі дапамагчы дарослым у выбарчай кампаніі: арганізавалі піонерскія брыгады, якія пойдуць на кватэры тых выбаршчыкаў, у каго ёсць малыя дзеці. Рэбяты знайшлі для малых цікавыя кніжкі з малюнкамі і гульні. Многія піонеры пісалі для падшэфнай установы лозунгі. Рэдакцыя атраднай газеты выпусціла спецыяльны нумар, прысвечаны дню выбараў.

Зараз піонеры рыхтуюцца сустрэць новы год. Яны арганізуюць атрадную ёлку. Кожнае звяно робіць цацкі, хлапушкі і інш. Рэбяты таксама рыхтуюцца да выступленняў на вечары самадзейнасці. Ізя Гейман будзе іграць на гітары, Саламон Братаніцкі выканае на мандаліне некалькі песень. Некаторыя рэбята выканаюць каўказскую, украінскую і беларускую пляску.

**О. М.**

**Бабруйск, 4 кл. 14 Сталінская школа**

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

СНЕЖАНЬ 1937 г. № 12.

Цана 30 кап.



# КІМ МЫ БУДЗЕМ

(МАРЫ І ДУМКІ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ).



1. Мне падабаецца іграць на трубе. У мяне яшчэ няма сапраўднай меднай трубы, але затое ёсць самаварная. Чым-жа яна горш за медную?



2. На гэтых аэрасанях магу зʼехаць аж на самы полюс. Перадам там прывітанне ад рэбят Папаніну і вярнуся назад.



3. Хочаце, рэбяты, падвязу вас на сваім аўтамабілі. Я ўжо надрэнны шофер, а як вырасту—абʼеду ўвесь Савецкі Саюз!



4. А я буду Папаніным. З ахвотай замяню яго на полюсе. Няхай толькі акажацца—і я гатоў!



5. На сваім самалёце я абʼеду вакол зямлі цераз два полюсы. Я ўжо цяпер рыхтуюся да гэтага маршрута.



6. Цяпер я ваджу свае караблі ў начоўках, а як вырасту—паеду і ў моры.



7. Я буду прыкладным пагранічнікам, ніводнага шпіёна не прапушчу на Савецкую зямлю.



8. Калі фашысты асмеляцца напасці на нашу краіну, я буду змагацца, як Чапаеў.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ
Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА
Адрас рэдакцыі: МЕНСК, Дом Друку
Друкарня імя Сталіна. 24.430 экз. Зак. № 1917. Уп. Галоўлітбела № 3501.